БЕК 84 (4Беи)6

УДК 882.6—1

ISBN 5-340-00914-09



«А ПИСАР ЗЕМСКИЙ МАЕТЬ ПО-РУСКУ ЛИТЕРАМИ И СЛОВЫ РУСКИМИ ВСИ ЛИСТЫ, ВЫПИСЫ И ПОЗВЫ ПИСАТИ, А НЕ ИНШИМ ЕЗЫКОМ И СЛОВЫ».

Статут Вялікага княства
Літоўскага
Раздзел 4, артыкул I
Вільня, 1588 г.

## А ПІСАР ЗЕМСКІ...

Белы ліст — пад поўняй поле.
Людзі — літары.
Заўтра стане ўсё аколле
з намі злітнае.

Хто абмыты быў слязьмі,
хто — прыдушаны?
Мы цяпер законы самі
пішам душамі.

Белы ліст — як лёс-планіда -
быў астуджаны.
Абакрадзеным да нітак —
па Статуце жыць.

Вунь складае пісар земскі
сказ уборысты...
Ці мястовы я, ці сельскі,
жыць — напорыста!

Нашы душы як насенне
(ўсё — усхожае)...
Прарастаюць рады, сеймы,
праўда божая.

Белы ліст не ляжа ў скрутак.
Дзень — палітраю.
Не, не пройдзе чорны смутак
зноў у літары.

## КАТЭХІЗІС

— Што робіш, беларус?
— Іду нягеглы, хілы
дарогай, дзе стаяць
Дубок, Бяроза, Клён...
Так хочацца сказаць,
пра што маўчаць магілы,
злучыць сваё імя
з мільёнамі імён.

— Што бачыш, беларус?
— Выходжу з сутарэння...
Я сам каваў кляймо
для сэрца, галавы...
Ішлі ва ўслугачы
ў каго было натхненне;
ў каго была любоў —
праглядваюць з травы.

— Гаруеш, беларус?
— Нясу вякоў няшчасце.
Хто мне наканаваў
такі пакутны скон?
Прымаў крывіч, ліцвін
знішчальнае прычасце.
Вунь помнікі стаяць:
Дубок, Бяроза, Клён.

— Паўстаў Народны фронт?

— Збіраецца Пагоня
адбіць нямы палон
і страты ўсе вярнуць...
Як лёгка выміраць,
сыходзіць у спакойню:
суседзі не клянуць
і дзеці не завуць.

— Трывожаць Курапат
заўчасныя магілы?
— Са стогнаў іх растуць
Дубок, Бяроза, Клён.
Я з імі не слабы,
ад іх прымаю сілы
злучыць сваё імя
з мільёнамі імён.

— Ці спраўдзіш благавест?
Няўклюды, недарэкі
дзяржаўныя шляхі
адродзяць ад крыніц?
— Ажывім бальшакі,
свае спатолім рэкі
і стрэлы палачан
прытулім да байніц.

Дубок, Бяроза, Клён
чакаюць: будзе плён!

**БАЛТЫКА**

Нясе Дзвіна вякоў накат:
жыве рамантыка!
І сёння балту я, прыбалт,—
як брат.
Пры-Балтыка:
і мёд, і лёд, узлёт і пот,
з гаркотай практыка...
У Балтыку плыве мой плот.
Бывай, Пры-Балтыка!
Мінаю межы і слупы:
за «Крамай» — «Партыка».
Вяжу славянскія снапы
з тваімі,Балтыка:
узбагаціцца сінізной —
мая ўся тактыка.
Плывуць Даўгаваю-Дзвіной.
Наўкол — Пра-Балтыка!
Перад супольнасцю Зямлі
сябрам скаруся я,
сястрыца ў балцкае сям'і
Балткрывія...
Балтарусія.
Дзвіне і Нёману з нябёс
расы прыбавіцца.
Даў Бог нарэшце ўласны лёс
усёй Пры-Балтыцы!

**КАЛЯ НАДГРОБКА САПЕГІ**

У Лявона Сапегі адбіты абцас.
Грукаў час... Чую бас:
«У Лявона Сапегі лёс горкі.
Колькі жонак было у Сапегі?
Падчас як да нас
да Сапегі прызнічвалі зоркі.
Скамянелі магнаты
і шлемны іх лад...
З іхніх лат
паздзіралі мы шпоры...»

Леў Сапега
адкрыў мармуровы пагляд:
«Немаўлят
спавівае пакора...
Я — адступнік?
За злотыя веру прадаў?
І статутную мову і гоні?
Корань друйскай дзялянкі
вяпрук абглыдаў...
Пад Арлоў падкаціліся Коні...»[1]

На надгробку ў. Сапегі
адбіты абцас.
Мёртвы час.
Усміхаецца люд паспаліты:
«Леў Сапега — увесь, што тут ёсць,
не для вас,
бе-ла-ру-сы:
бо ён — самавіты!
Моц Сапегі не ў тлі:
ўся яна на скрыжалях!
Вам — асколак абцаса
для славы зямлі,
дзе займаліся тым,
што рабоў нараджалі».

З-пад абцаса Сапегі —
і вехі, і лёхі...
І здрайцы глядзяць на мяне,
каб напасці.
Ён зышоў ад крыніц,
ды не здолеў прапасці!
Толькі я й пакараны:
між Вільняй, Варшавай, Масквою
мой дом разабраны.
Стаю прад табою, мой Вою,
крывіцкай зямлёю каханы.

[1] Маецца на ўвазе Люблінская унія.

**ОПЕРА**

> Зімою 1612—1613 гг. Сусанін узяты атрадам польскай шляхты за праваdніка да в. Домніна — вотчыны Раманавых...
>
> БелСЭ
>
> ...гісторыя Рэчы Паспалітай — і наша гісторыя.
>
> Алег Лойка

Адкуль твая пяхота, хітры гетман?
Якая шляхта носіць галуны?
Гісторыя адказвае на гэта:
я не вяртаўся з кожнае вайны.
Ішлі канфедэраты, інсургенты
самім сабе, бывала, наўсутык.
Раманаву я быў за інтэрвента,
Напалеону — як саюзны штык.

Пяклася кроў. І мною затыкалі
прамоіны ў падмурках каралёў.
Дзе толькі беларусы не здыхалі,
не ўмотваўшы родных каранёў.
Але затое у суседа Глінкі
Іван Сусанін ратаваў цара.
А шляхту не прыкмеціла зара.
І вось ідуць,
ідуць па мне памінкі,
і заміраю я на кожным такце:
мяне, здаецца, для чужой вайны
у польскія, літоўскія сыны
запішуць... І пайду па чорным
І павядзе Сусанін беларуса
да беласнежна-смертнага абруса.
Гісторыя не любіць белых плям?
Я ёй свае, чырвоныя, аддам.

## ЗАСЦЯРОГА

Рабоў не шкадавалі фараоны.
Не шкадавалі мужыкоў цары.
У гліну утыкаліся патроны
у час расстрэлаў сталінскай пары.

А потым Проня паглынала душы.
Ля Рыленкаў — дзесяткі тысяч сноў.
Змяніўся час? Чарнобыльскія грушы
смяротна зацвітаюць зноў і зноў.

Жыццё — ніштто? А я ў сябе спытаю:
«Вунь вораг мой — маё сумленне. Спіць?.

Старонкі дзён атрутныя гартаю.
Шкадую я уласнай долі ніць?

Хто абароніць гены — фараоны?
Хто пашкадуе род —
функцыянер?
Для абароны ёсць карэнні, кроны...
І я! І я! Павер, Зямля, павер.

## ДАНІНА

Былі застойныя гады.
Жылі крыкліва гады:
з іх кожны вымпел залаты
выносіў на парады.

Дэманстраваў прыгожа гад
лісліва-ціхі нораў,
абы рабы яго брыгад
не выпаўзалі з нораў.

Слізгучай хеўры шапаццё
паела ўсе паклады,
што не пазнаць: ішло жыццё
Савецкае улады?
А хто зграбаў з маіх патоў
сабе у цэбры льготу?

Даніну я плаціць гатоў,
але свайму народу,—
яго дзянніцы над чалом
абуджанага сонца,
і Конніку, які з мячом
маім стаў абаронцам.

## ПЕРЫЯД ПАЎРАСПАДУ

З пажарным німбам беларусы.
За намі палаўцы і прусы.
Так часта у вяках было:
то кожны трэці, то чацвёрты
не па сваёй ахвоце мёртвы.
І зноў з чарнобыльскім прымусам
у пекла ўсіх нас павяло.
Які эле-мен-тар-ны шлях!
Не ўберажэцца (й напалову)
і той, хто вынішчае мову.
Правадыроў зашкаліў страх.
І там, дзе продкі жалі жыта, —
ўсё радыяцыяй прашыта,
начальніцкі прабіты трон.
І дыхае атрутнай зонай
цэковец, дзядзька парасонны:
па-рознаму жыццё пражыта,
але адзін над імі звон,
адна інструкцыя — на скон.
Наш саркафаг ружова-хмуры.
І над рэспублікай хаўтуры
спраўляе смерці памяло.
Мы на планеце ляжам друзам?
Змяні, анёльскае крыло,
німб сатаны над беларусам.

## СПАЖЫВЫ ДНЯ

Дзень — на пачатку...
ён яшчэ — бязгрэшак.
На промні німбаў
вершам памалюся.
А звечара я думаў:
развалюся ці распылюся,
як пусты арэшак.

Вяртаюцца ў душу
святло і сіла:
і перад кім я век быў у палоне?
Мо ў безназоўнай лагернай калоне
мая істота волю адпрасіла?

Па промніку увесь я адраджуся,
ад здрады і няпраўды адвярнуся.
І памагу другой душы-руіне,
абкрадзенай у змучанай краіне.

Мацнее Дзень.
Зваліў ён цень падзорны.
І я шкрабу-шарую, грэшна-чорны,
уласныя сляды
(ідзе дарога
мая — да Бога, а часцей — ад Бога).
Я ж прычашчаю лепшыя, каторыя —
да нацыі, да ведаў, да гісторыі...
Усе, усе яны — да Беларусі.

Ступаю і баюся: правалюся —
і ў воўчай яме зноў я буду гніць...

Але праменны Дзень струной звініць.
Ён — перамога.
ён — мая надзея.
Мой верш, бяскроўны ўчора, маладзее.
І я за ўсіх пакутнікаў малюся
на новыя стагоддзі Беларусі.

**АДПЛАТА**

— На шыбеніцу!
— На касцёр!
— На кол!..
І дзе б ні знішчажалася істота, —
для гэтага у катаў быў д а з в о л ,
яшчэ і асабістая ахвота.

— На Салаўкі!
— На Калыму!
— На смерць!..
І кат аж упіваецца у раны.
А гэта крывапіўцу трэба ўмець.
Умее, бо не будзе п а к а р а н ы .

— На мукі!
— На асмейванне!..
—. На злом!..
У катавальнях новыя прылады.
Але, а с у д ж а н а е , чакае зло
за страты справядлівае адплаты.

**БУДЗЕМ!**

«Рабы не мы: рабы – нёмы»

А ранічкаю свежай
так сонейка гарэла!
(Грэла.)

і падганялі стрэлкі
(Стрэмкі).
Пад вечар — анічога:
ні сілы, ні ахвоты.
(Годы...)
Агорклі ўсе турботы,
паспешлівасць абрыдла.
(Крыўдна.)
«Цярпі!»' — мяне вучылі.
Цягай ваду са студні!
(Трутні...)
Усохлася радзіма.
Прасіцелася донца.
(Стронцый.)
Што робяць з Беларусяй!
І я глумлюся, немы.
(Дзе мы?)
Няўжо мы ў тым тунелі,
дзе ўжо няма звароту
(Роду).
Мы — цені без вяртання
пасля клінічнай смерці?
(Цвердзі!)
Народ наш без'языкі,
але не безназоўны.
(Зорны.)
Сваіх нямых — намовім,
ачмураных — разбудзім.
Будзем!

**ГАДЗІННІК**

Ішоў вясенні дождж.
Жыццё — у звыклым гудзе.
Вялікі вырас хвошч.
Налета ён ці будзе?

Для селяніна здзіў:
не бульбіна — планета.
І мой сад урадзіў.
Ці спажыву ўсё гэта?

Які пераварот:
вайною голад мучыў,
а сёння поўны рот,
ды ураджай — калючы.

Мы бачылі агні
ад карнага нашэсця…
Смерць сёння — з цішыні:
з нейтронаў перакрэсця.

Паў-Беларусі сніць
трывогі і надзеі.
Не гад ён, не сіпіць:
ён, атам, толькі д з е л і ц ь

хвіліны і жыццё,
планету і пясчынкі…
Гадзіннік нашых дзён
аддаць бы для пачынкі,
каб не спыніўся ход
біялагічных стрэлак…
Гібее наш народ
без выбухаў і стрэлаў.

Які мы маем лек
ад атамнага снення?
Чарнобыля праменне —
слязіна з-пад павек.

Паправіць бы гадзіннік
на несупынны ход…

А ў нас? Наадварот:
калек мы нарадзілі,
пакуль за нос вадзілі
жывучы наш народ.

**ЗЯМЛЯ**
**ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ**

Культуру нашу за нас ніхто
рабіць не будзе.
Пятрусь Броўка

Складаюць-пішуць успаміны
пра літаратараў-бацькоў.
А пры жыцці складалі кпіны:
«Старыя — высеўкі вякоў...»

На слова позняе мы ласы.
Раней бы беды прыкмячаць:
бадзёра паступалі класы
у ВНУ сваё не вывучаць.

І што з нас будзе?
Хто з нас будзе?
Замена Броўку ці ідзе?
І не ўглядаюцца ўжо людзі:
«А хто там, хто у грамадзе?»

А грамада —'
мільёнаў дзесяць!
Ды безбяседніцаю Бесядзь:
ці знаюць Куляшова дзеці?
Яго «праходзяць», а не песцяць.
Літаратура — на ліміце.
Сумленне ў помач пазавіце:
няхай паверыць славы медзь:
без чытачоў ёй не звінець.

Есць карані: Скарыны меты
І Вітажэнца запаветы.
Нібы крыніца, поіць сіла —
моц Багдановіча Максіма.

Але вясна ў трывожным гудзе:
што з намі ўсімі заўтра будзе?
Вунь Караткевіча курган.
Дзяўбе чарнобыльскі груган.
Зноў некралог, яшчэ адзін...
І зацвітае бел-язмін,
як успамін, як напамін.

Зямля пад белымі крыламі
здаўна населеная намі;
і нам тут, веру, вечна жыць,
калі — Радзімай! — даражыць.

## КАМАНДЗІРОЎКА Ў РАЁН

Не, я не «вораг», не «агент»,
хоць і «гнілы» інтэлігент.
Быў мне наказ упарты:
— Пра «Талаку» не ўспамінаць,
«Мартыралог» не памінаць,
маўчаць пра Курапаты!

Жыву ў эпоху выбару,
са словаў соль я выпару
і людзям так скажу:
— Хто кулакамі грукае,
таму не быць ля рупара,
не прычашчаць душу.

І ўсё ж хто я і мы хто ўсе?
Няўжо нас нечы цень пасе
яшчэ ад школьнай парты?
Што ж, чын раённы на пасту.
Але я з кожным днём расту:
мне варта жыць без варты.

Са словаў соль я выпару.
Жыву ў эпоху выбараў
з платформаю такой:
— Сяляне і рабочыя —
саюзнікі прарочыя.
А працаваць ахвочыя
усе мы — талакой!

Жыву ў эпоху выбару.
Са словаў соль я выпару.
Пастрашку не сцярплю:
— Люблю уладу родную!
Уласную! Народную!
Зямлю, ужо бясплодную,
гаротную люблю...

Я веру: на свае харчы
пяройдзе мой раённы чын
і будзе ён, лабаты,
«Мартыралог» успамінаць,
Народны фронт не прамінаць,
крычаць пра Курапаты.

## МУЗЕЙ У КОБРЫНЕ

Гляджу на вітрынную згоду:
бязвінны Сувораў... Кульнёў...
Музей пакарэння народаў?
Музей пагашэння агнёў?
Пасведчаць канфедэраты,
паўстанец Касцюшкі кіўне:
суворлаўскія маршатрады
расстрэльвалі і мяне.

Трафеем стаў карніку Кобрын
з капой паўзадушаных душ.
Вітрынны Сувораў... Ён добры...
І шэпча: «Герояў не руш!»
Ён — кат Пугачовага роду,
ён — меч для маіх каранёў...
Было пакарэнне народаў!
Ішло пагашэнне агнёў!

Суворава карную сілу
нялёгка нам сёння забыць.
Ды мне кіпцюрам агрэсіўным
здабычаю болей не быць.
Таму і хачу я Расію
любоўю былой не любіць.

## КАГО ЛЮБІШ?

Спустошаны нетры: на крык павяло.
І крэмсае нервы Чарнобыля зло.
Камандная ўлада злучыць не змагла
ні крыўды-разлады, ні выкіды зла.
Ішлі да разброду кульгавай хадой...
Жыць можна народам, а не грамадой.
Растопім ільдзіны, душы снежны ком.
Жыць можна Радзімай, а не хутарком.

Суполле — ў лагоду!
То пойдзем жа, брат!
— Куды?
— На свабоду.
— Адкуль?
— З Курапат.

## ВЫРАК

Слова — як прывабны хутарок.
А выслоўе — вёска. Крок у крок
па сялібах літары блукаюць:
нашы вусны літары шукаюць.
Прымаўка — мястэчка над ракой,
з хрэсьбінамі, рупнай талакой...
Мудрае, калі яно радзілася?
Слова мне антонаўкай скацілася.
Мова, мова... Ты мая мяжа?
Вартаўнік дзяржавы ці крыжа?
Вечная скрыжальная граніца?
Ды не ўсім, гаротненькая, сніцца:
пасцінალі столькі ўжо галоваў
за вянец святых крывіцкіх словаў.
Цяжка сёння мове ўкараніцца.
Нашыя дзяржаўныя даклады
сціплай беларускасці не рады.
Як праз зубы цэдзіцца дазвол
і на Трон для мовы, і на Стол
сцяг Пагоні бел-чырвона-белы...
Чуць трапечацца, нібы скалелы,

## ЦАНА

Дзе страты? Дзе ахвяраванні? Ц ; ¥
Сто тысяч сэрцаў — за Берлін...
У пераможным лікаванні
мільёны зрэзана галін.

Касцямі высланы дарогі.
З касцей узведзены рэдут...
І на парадзе Перамогі
ніхто не думаў правіць суд.

Ад «кулака» аж да «афгана»
страляе пырскамі крыві
крывая сталінская рана
нечалавечай нелюбві.

І дзе цана маёй істоце
і мне нададзеных правоў, —
калі зямля — ў сялянскім поце,
душа — ў калымскім колкім дроце,
а неба — у крыжах рабоў?

## НЕ АПОШНЯЯ...

Разабралі вайны партызанскае голлейка
на сустрэчы са школьнікамі;
разабралі — узнёслае і прыземленае —
на вітрыны музейныя.
Разабралі ружовую, не крыжовую,
а поўную хвасці.
Удачы пакралі, засталіся напасці.
Шкуматочкі памяці
па людзях раскіданы
хваляю ўзрыўною —
усё, што завецца
самым страшным няшчасцем — вайною.
Варожая і Айчынная — уся! —
немагчымая:
яна не пісьмовая — вусная,
не чытэльная яна, бо гнюсная,
бязвіннай крывёю пошлая.
І самае горкае — не апошняя.

## НА ВУЛКАНЕ

Вільня. Рыга. Стрэлы. Папялішча.
Ля мяне дурная куля свішча.
Ацалеў. А новая цаляе.
Разінская вольніца гуляе!
Адурнелі людзі. Ачмурэлі.
Расхісталі смертухны арэлі.
Баявік страляе угарэлы.
Дзе вы, песні?
Стрэлы... Стрэлы... Стрэлы...
Зноў мне ў кратэр азвярэлай злобы?
Цэліцца разбойнік вузкалобы.
Праўда? Справядлівасць? Божы розум?
Кроў яшчэ крывавей ад марозу.
Зеўрыцца Гісторыя удова:
да чаго прыйшла перабудова?
З пераломкай ходзіць перастрэлка.
Проста ў сэрца упілася стрэмка.

Дзе ён, Бог? А дзе благаславенне?
Загусцела кроў у чорнай пене.
За каго я? За жыццё і волю!
І не гільзы — зерне дайце полю.
Дайце, людзі, прарасці спагадзе:
— Мір армянскай, асецінскай хаце!
Кожнаму — разумнае аблічча!
Порах кулі ў свае гнёзды кліча.

## ШТО НА СКРЫЖАЛЯХ?

Даўнейшая «табула раса»[1] —
навейшая «белая пляма»...
Рэспубліка — ўзвышша ці яма?
Да самага верху — зараза.

Навокал стагоддзі нямыя:
ў суседзяў стральба на парозе.
Дзе жорсткае слова завые, —
там лёзнае слова ў знямозе.

Мы рупімся? Толькі для здзеку.
Мы вучымся? У спусташэнні.
Як чорна і цвіла ў засеку,
і як пустазельна у жмені.

Крычыць курапацкая яма.
«За Сталіна!» — курчыцца «маса».
Пазнейшая «белая пляма» —
апошняя «табула раса»?

Імёны свае і найменні
чытаюць на дошцы іржавай
аслепленыя пакаленні,
абкрадзеныя дзяржавы.

[1] «Табула раса» (лац). — чыстая дошка.

## САМАЕДЫ

Працінalі калючымі фарамі
і да плах валаклі бедалаг,
каб услед за сваімі ж ахвярамі
і самім — на ГУЛАГ.

Самаеды не племя, не нацыя...
На прасторах бабусі-Зямлі
Беларуская ёсць папуляцыя
са.маеднае тлі.

Не насыцяцца родненькім лётчыкам:
чацвяртуюць'яны дзецюкоў...
Дзе вы знойдзеце горшых і злейшых
языкоў і клыкоў?

Ненажэрыста-злой акупацыяй
раздзіраюць свой род на крыжы.
Самаеды апошняй інстанцыі —
гэта слугі ілжы.

...Беларускую долю узважваю
(уваскрэсне мой лёс?):
на аб'едзеную, на загаджаную
узіраецца праўда нябёс.

## М Ы

«Я ў дзень смерці ягонай не плакаў!»
«А я Сталіна ганіў тамы»...
Не Іосіф быў аўтар ГУЛАГаў, —
Безназоўна-пакорныя Мы.

Крыжавалі рэспубліку краты,
і глуміліся служкі турмы.
Хто яны — і ахвяры, і каты?
Безназоўна-пачварныя Мы.

Косці вояў яшчэ не прыбраны:
чуе Волхаў узрыжжа сурмы.
А хто множыў афганскія раны?
Безназоўна-магутныя Мы.

Затаіўся Іосіф з братамі.
Раб у кожнай крывінцы не здох.
Ты і я — гэта Мы. А над намі
Розум лучнасці — нацыі Бог.

## У ПАХОДЗЕ

Усё мяняецца ў прыродзе.
(А ў ёй не толькі агарод.)
Мо што змянілася ў народзе
за Дзевяноста-Новы год?
Былі платформы і падмены, » '
былі шыпучымі гады...
А што зрабіў для перамены
ну хоць бы я, ну хоць бы ты?
Бярог мой бэлька «на насёны»
надзею спелых каласоў.
Няхай жа верне Трыццаць Сёмы
пакутны вырай галасоў.
Няхай жа верне Сорак Першы
бязмернасць прыгранічных страт...
Імёны верных, мужных, лепшых —
на справядлівы наш парад!
Калі Радзіма ўсе мільёны
барацьбітоў збярэ на сход, —
разгушкае густыя кроны
і Дзевяноста-Смелы год.
Усё мяняецца ў прыродзе:
ад кропелькі — усё падрад...
Які народ — такі урад.
Жыццё з ідэямі у згодзе —
уся краіна ў паходзе.

**РЭХА**
**Ў РОДНАЙ СТАРАНЕ**

Што на памуці у Сонца?
Светлы лік у цьме бясконцай.
Нараджаўся там Сусвет:
свет людзей і свет планет.

Што на памяці ў Зямлі?
Каліва на араллі:
знізу — корань, зверху — кветкі.
Там, дзе кветкі, —
ёсць і дзеткі!

Помняць нашы курганы
кожнай — жвір і жар — вайны.

Што на памяці ў Айчыны?
Бляск паходні і лучыны,
плахі меч, Пагоні меч
і фашыстаў чорны смерч.

Што на памяці у Песні?
Тое, што ўжо не закрэсляць
ні вякі, ні лайдакі,
ні алоўкі, ні штыкі.

Мова — з памяці-вядзьма:
без яе мяне няма.
Для душы няма пажывы —
не жывы я, не служывы.
Ведаю, што дух народны
з роднай мовай несмяротны

Што на памяці ў мяне?
Рэха ў роднай старане.
Ля Дзвіны карэнні роду.
Веру: ім не будзе зводу!
Мой сынок, мая дачка —
два вяслы. Жыве рака:
вёслы крыламі ўзлятаюць,
нашы дні ў вякі плывуць,
і суседзі нас вітаюць.
Б е л а р у с а м і завуць.

## РУЧНІКІ ПРЫДЗВІННЯ

Чаруе Прыдзвінне:
дубок пры каліне,
жар-птушка пры кожнай сям'і...
Узоры ў Ядзвінні —
«Каваль», «Берагіня»[1]:
Бог сонца. Прамаці зямлі.

Між небам і долам,
між воблакам, домам
населены родны прасцяг.
Каваль пры рабоце,
і сонца — у поце —
на ноч апускае свой сцяг.
Штандар залаціцца,
каб заўтра — узвіцца
наноў абнадзеіць зямлю.
Жыве «Берагіня» —
зямля не загіне;
Прыдзвінне, якое люблю.
Прыдзвінне шчыруе,
але і гаруе,
баіцца: што будзе, калі
тут памяць асушаць,
і нам не паслужаць
Бог сонца, Прамаці зямлі.
Надзея на ўнукаў:
ідуць без прынукаў
на бераг, дзе сеюць і жнуць.
А Бог ва ўспаміне, —
жыць будзе Прыдзвінне —
і людзі, дасць Бог, зажывуць.

---

[1] На прыдзвінскіх ручніках часам замест арнаменту вышываюцца выявы чалавечых постацяў.

## «АБ ОВО»[1]

Пачнем з нуля.
Прыцiх партыйны вiскат.
I нашу беларускую калыску
пагойдвае матулечка-Зямля.

Пачнем з нуля.
Хаця наш нуль не круглы:
у пяцiзорным рыкашэце — трупы,
рэабiлiтаваныя п а с л я .

I я з нуля
пачаў свой стратны выстрыг.
Ды чэрап мой не прадзiравiў выстрал
Хухлова — асабiста-караля[2].

Быў ля нуля.
Ды рукi падавалi
сябры: яны сябе не прадавалi
i на касцёр не кiдалi галля.

Пачаць з нуля шыкоўна i зайздросна.
Яго i сёння выверыць не позна,
цi вымераць: з нуля глядзiць пятля.

Трымаецца уладай патруля
савецкi нуль — дзярмо перабудовы:
мы нават ля абрыву не гатовы
здымаць штаны ў таго, хто ля руля.

Прабоiны ад курапацкiх куль
глядзяць у псеўдабудучыню — ў нуль...
Адзiныя нулi надзеi плодзяць —
крывiцкага майго тысячагоддзя.

---

[1] Аб ово» (лац.) — пачаць з яйка (з самага пачатку).
[2] У 1974 г. «за связь с националистическими деятелями, пропаганду их в печати, потерю классовой бдительности» аўтар быў «толькi» выключаны з партыi, зняты з пасады журналiста, выкiнуты з армii, пазбаўлены сям'i...

## БЕЛАРУСЫ

Людзі ветлыя.
Мы не бедныя:
рэкі — з русламі..

Беларусы мы!

Неба — божае,
Сэрца гожае,
з перагрузкамі...

Беларусы мы!

Між суседзямі
не мядзведзямі
заскарузлымі.

Беларусы мы!

Мы таланныя,
людзі знаныя,
свой Каруза быў.

Беларусы мы!

Слава — позняя.
Ніва — росная,
зерне грузнае.
Беларусы мы!

## ДЗЕЦІ ВАЙНЫ

Па сённяшні дзень сваіх родных знаходзяць, —
і б'юцца іх сэрцы — пажараў званы...
ссівелі яшчэ да свайго паўстагоддзя
дзеці вайны.
Ім хочацца заўтра паболей спагады.
Ім хочацца заўтра паменей маны...
Хто з нас аржаному акрайчыку рады?
Дзеці вайны.
Пякучая памяць людзей не чарсцвее.
Мацнее напеў міласэрнай струны.
Трымаюць слязіну-планету на веях
дзеці вайны.
З балючага сэрца сыходзяць ільдзіны.
Вяртаецца праўда у страшныя сны...
Вы — дзеці Жыцця, вы — іскрынкі Радзімы,
дзеці вайны.

## ПАМЯЦІ ЗБОРНІКА «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

У выдавецтве «Юнацтва» па прычыне высокіх паліграфічных выдаткаў не выходзяць многія кнігі.

Задушана яшчэ адна задума.
І не забава ціха памірае.
Мы зблыталі Зямлю з ліхім Сатурнам,
сваю дзяржаву з надмагільным краем.

І жвір цячэ са жмені абамлелай
замест жывой вады каля крыніцы.
О, як у сэрцы жылка забалела:
жыву я не ў рэспубліцы — ў бальніцы?

І перад небам стану на калені,
праменьчыку надзеі памалюся.
Заглушаныя нашыя памкненні,
засушаны карэнні Беларусі.

Каб не звялося продкавае збожжа,
не высахлі палеткі залатыя, —
«Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа»[1]:
мы самі не зваюем сілы злыя.

Ішлі пакорненька за кожным дурнем
Мы не народ — абскубенае пер'е
...Задушана яшчэ адна задума.
Яшчэ адно узроджана бязвер'е.

[1] Радок з верша Янкі Купалы «Цару неба й зямлі».

## СКРЫЖАВАННІ

Грымеў кальчугай рыцарскі турнір.
Звінелі тонка шпагі мушкецёраў.
А сёння горад — самы жорсткі цір:
на скрыжаваннях бронетранспарцёры.
Грымеў разбой матроскіх патрулёў.
Уся зямля звінела чарапкамі...
Мы так і не паўсталі з хатулёў,
хоць выслалі дарогу чарапамі.
Ахвочыя паказвалі імпэт;
рабром далоні — па сцябле артэрый...
І курчыўся мастак або паэт
прад берыеўскім пракурорам прэрый.
Імперскі попел зацінае дых.
Не хочацца ў адстаўку банапартам.
І вольны шлях дзяржаваў маладых
крывёю супыняецца упарта.
Ці ж будзе суд над сатанінскім злом?
Ці ж прыйдзе за злачынства пакаранне?
І з насцярогаю глядзіць мой дом
на скрыжаванне... На укрыжаванне.

## ЭМІГРАНТЫ З БЕЛАРУСІ

Адляцелі ў вырай гусі...
Эмігранты з Беларусі,
як жывеце-разрастаеце ў камлі?
Не развеяліся ў скрусе:
вы жывеце Беларуссяй,
разам з намі вы жывеце на Зямлі.

А дзіцё чакае бусю
і сустрэчу з Беларуссяй,
дзе адвечныя найменні-карані.
Скажам разам: «Не скаруся!
Беларусам я завуся:
на планеце маю многа я радні!»

Прыляцяць дадому гусі, —
ўзвесялее ў Беларусі.
Эмігранты, вы гаранты, што і я
чорнай сілы не збаюся,
на Айчыну памалюся:
Беларусь мне і Дзяржава і сям'я.

Эмігранты з Беларусі —
нашы Вітаўты, Ганусі...
Разам з вамі нам яднаць мацерыкі.
А Пагоняю мы змусім
і слабых быць у хаўрусе.
Беларусь наканавана на вякі!

## МЕЧ АБАРОНЫ

Беларускае войска
узняло на сцягі
Крыж асвечаны, боскі,
даўні Меч дарагі, —
спадар у родным доме,
ваяр за родны Край,
ты будзь напагатове!
Зважай! Зважай! Зважай!
Беларускае войска
чуе Грунвальда кліч.
Даў сам гетман Астрожскі
Каліноўскаму Зніч.

Беларускае войска —
шыхты смелых сыноў.
Абаронаю — востры
Меч сівых курганоў, —
спадар у родным доме,
ваяр за родны Край,
ты будзь напагатове!
Зважай! Зважай! Зважай!

**РОДНЫ СЦЯГ**

Светлым полем я нясу
агнявую паласу:
як маланка, нада мной
зіхаціць над галавой
  сцяг мой вольны,
  сцяг мой смелы,
  сцяг мой бел-чырвона-белы.
Быў адважны продак мой
у пагоні баявой.
Той пагоні чую звон, —
і не трапіў у палон
  сцяг мой вольны,
  сцяг мой смелы,
  сцяг мой бел-чырвона-белы.
Залунай на ўвесь прасцяг,
агнявых вякоў працяг!
ЁСЦЬ Дзяржава і Народ!
Развінайся — і ў палёт,
  сцяг мой вольны,
  сцяг мой смелы,
  сцяг мой бел-чырвона-белы.

«...ТОЛЬКО КОЖНЫЙ ЗА СВОЙ ВЫСТУП МАЕТЬ ТЕРПЕТИ И КАРАН БЫТИ».

Статут Вялікага княства
Літоўскага
Раздзел I, артыкул 18
Вільня, 1588 г.

## ПАЭТЫ

Паэты не вечныя:
жыццё без гарантыі.
Яны невылечныя,
калі не парадныя.

Прымусілі Пушкіна
служыць імператару?
Паэты не гушкалкі —
кіпучыя кратэры.

Няшчасныя таленты...
Іх разам з паперамі
смуродныя Сталіны
мясілі сякерамі.

Нясуць іх пад воблакі
не крылы пчаліныя...
Гляджу на іх воблікі
ужо надмагільныя.

Любоў да іх свечная,
а слава запозная.
...Паэты, вы — вечныя
Паэзія — розная.

## СОТЫ СУТАК

Трымаецца Свет
на арматуры радні.
Так, шар наш зямны
не павінен рассыпацца:
вунь акенцы жыцця —
  *дні,*
  *дні,*
  *дні* —
так хочуць на промніку Сонца
  па-
    зы-
      бац-
        ца...
А ўнізе мурашыная мітусня.
Ціскатня прыкарытная рохкае...
...І зноўку з абвугленага
работаю Дня
Ноч адкусвае лустачку крохкую.

## СПАДКІ ДЗЯДЗЬКІ ЯЗЭПА

*Аляксею Марачкіну*

Не паглынуў Драздовіча палын:
знайшлі яшчэ адзін аўтограф шчырасці.
Растыражыруйце яго цудоўны млын
і млынара яго разафішыруйце.

Ах, нельга?
Млын — друзы калючы ком,
а млынара у лепшы свет паклікалі…
Растыражыруйце тады альбом
з касмічнымі муроўкамі і лікамі.

Яго планета стыне ад пакут,
нібыта Беларусь ад радыяцыі.
Растыражыруйце яшчэ не мёртвы кут:
і нашы продкі скрозь туман праявяцца.

Растыражыруйце яго «люблю…» -
Адно, што не хацеў ён тыражыраваць, —
жабрацкі лёс, бязродную зямлю,
ахвоту скарбы нашы растранжыраваць.

Растыражыруйце натхнення ўзрод…
Не паўтарыць бы толькі сум Драздовіча:
«…Плыве пусты касмічны агарод
з чарнобыльскага чорнага радовішча».

## КАЎЧЭГ БЕЛАРУШЧЫНЫ

### І. Данчык

Паволі збліжаюцца мацерыкі:
вузеюць кашчавыя трэшчыны.
Мы ж — родныя-крэўныя.
Мы — сваякі.
І песні — над прорвай парэнчыны.
Змяншаюць свой гібельны трэск
наладжаныя супрацьстаянне датчыкі.
Быў хрэст на свабоду,
на згоду хрэст —
напевы Андрусішына Данчыка.
Галоснасці голас — на верасок,
на сок
арабінавых воблескаў.
З Нью-Йорка да Мінска расце каласок
у жменю міжканентальных воплескаў.
Радзінныя песні — ратунак Зямлі.
Планета сціскае расколіны.
Ля вуснаў маіх
хоць адну ускрылі:
ад песні не будзе аскоміны.
Амерыка не пасівела так,
як думная доля ўдовай падзёншчыны…
— Мая Беларусь! — прамаўляе спявак
ля багдановічаўскай Ракуцёўшчыны.
Твая Беларусь… Вылюбляюць вякі
крыніцу нязбытнасці спадчыннай.
А матчынай песняй жывуць спевакі,

кахаюць яе салаўі, жаўрукі, —
яна на планеце не страчана!

**ІІ. Спадарыня Юля**

*Прысвячаецца*
*маме Данчыка*

Спадарыня Юля,
Ваш лёс як арэх.
Нью-Йорк — горад-вулей
і Ноеў каўчэг.

Спадарыня Юля,
каўчэгам Ваш дом:
прылашчыць, атуліць,
сагрэе святлом.

Спадарыня Юля,
а Данчык пяе
праз Вашыя «лю-лі»
нам песні свае.

Спадарыня Юля!
Сказаць Вам гатоў:
— Вы наша матуля!
Вы й наша любоў!

**ХАТА БАБКІ ПАРАСКІ**

Гасцінец далёкі і гразкі:
«сядзела» машына не раз...
Хаціна бабулькі Параскі —
мой самы высокі Парнас.

Сядзібу вартуюць суседзі.
Калі ж запалю я агонь, —
прыходзяць. У добрай бяседзе
яны і старэнькі гармонь.

З-пад кроны асенне-мядзянай
хацеў бы да нас падысці,
напэўна, і Федзя Кудзянаў —
мой лепшы сябрук у жыцці.

Мае абавязаны вершы
ягонаму першарадку.
...Сядзіць над магілаю вешчы
крумкач на сасновым суку.

«Ну, як перастройка?» — Талкую
з хітрушчым сваім земляком.
Ён хоча свабоду такую,
каб жыць на зямлі не тайком,

не мучыць яе, не калечыць...
Хай будзе ў рабоце — прадых.
— А хто нашы болькі залечыць:

так мала ўжо сіл маладых...

Не чуе і бабка Параска,
якую падумку жуём.
Зайздросціць надгробная краска:
мы з новай надзеяй жывём!

Складаю шурпатыя словы.
Шукаю між іх спарышоў...
...І кот — ад Мальвіны — на ловы
праз мой панадворак прайшоў.

**ІДУЦЬ ДАЖДЖЫ...**

Ідуць — наканаваныя — дажджы.
Табе і мне нідзе, відаць, не дзецца.
Свішчы, пустэча ночы, не свішчы, —
рэформамі не прыйдзецца сагрэцца.

Адзін ратунак, што планета — шар.
І круціцца той шар, і сцежкі сушыць...
Ёсць і яшчэ ратунак: гэта жар —
агонь крыві, які у сэрцы кружыць.

Агонь крыві цябе, мяне бярог,
калі усе сініліся расстрэлы,
калі мяне ў круты згіналі рог
і я пад сцягам «шчаслівеў», упрэлы.

Той жар і збавіў нас ад цемнаты
(ды не ад царскай жа, хрэстаматыйнай:
яе назвалі «ленінскай», «партыйнай»...),
і вось нарэшце выйшлі за драты.

Ідуць дажджы чарнобыльскім сумежкам.
І, можа, не расступіцца зямля —
з нітратным ці другім якім дамешкам...
Ідуць дажджы... І я іду здаля.

Няхай сабе дажджамі атулюся.
Але хачу, каб нехта мог пачуць,
калі я за Айчыну памалюся

і за цябе... І за сябе чуць-чуць, —
абы нам скінуць адзічэння злосць.
Мы абнадзеіліся: розум ёсць.
А нелюдзі краіну не заселяць!

Ідуць дажджы. І нешта сеюць, сеюць...

**КОТЛІШЧА**

З сядзібы бацькавай — балота.
А тут жа спела праца-згода...
А тут жа палавела жыта
бяссмерцем коласа.
У матчын сноп была завіта
патрэба голаса,
патрэба песні і патрэба
духоўнай святасці...
Мне ж хлеб здаецца ўжо не хлебам,
вадзіца — вадкасцю.

Была ў нязмушанай рабоце
зямля — прастораю,
калі стваралі продкі ў поце
для нас Гісторыю.

Шукаю ў тых вяках ашчадных
падмуркі мудрасці,
каб не пакінуць для нашчадкаў
разоры дурасці...
Прамее думка, як і рэчка
з разумнай звілінай.
Жытло жытоў, садоў сардэчнасць
знайсці павінен я.

## БЕССАНЬ

Парушыў сутак раўнавагу.
І мне бяссонніца — найлепш:
такая ноч дае адвагу
на новы верш, на смелы верш.

Такая ноч не пазяхае:
скрыпіць пра «тройкі» і пра «Смерці»...
І цень рабрыны пратыкае
мой новы верш, пакутны верш.

Насільны сон людзей — не вечны,
калі крычыць насільнік: «Рэж!»
Перанаселены Шлях Млечны
заве мяне?
Заве мой верш?

Вось праяўляецца дзянніца.
Хто скажа, што рабіць найлепш?
Даўней кідаліся маліцца.
А я складаю гэты верш.

І сам пытаюся у промня:
— Куды ты, немаўля, ідзеш?
— Світае, — кажа. — Зараз роўня:
святло і верш...

Святлей, мой верш.

## ПЛЫВУЦЬ КІТЫ

І што трымае чалавека?
Надзея? Страх?
Зямля трымалася спрадвеку
на трох кітах.
Вы помніце: іх выручалі,
калі кітам
палон палонкі прарывалі.
Адзін з іх там
не знёс пакут укрыжавання
і — пад тарос:
у непарушным знік тумане.
Такі наш лёс?
Зямля скаселая асела
на двух кітоў.
На нітцы тоненькай усе мы
паміж ільдоў.
Адкуль прыбудзе дапамога?
Сусвет нямы.
Вякамі ўсе чакалі Бога,
але не мы.
Раструшчым панцыры-таросы
і лёд літы?

Не замярзаюць нашы слёзы...
Плывуць кіты.

## МІНОР

Мае вы Рэчышчы і Далягляды.
Вялікадні, Купаллі і Каляды}
Вы знішчаныя без жуды і злосці,
патрушчаныя продкаў нашых косці.

Апошнія падмуркі і скляпенні
затуалечаныя ў асляпленні.
Ёсць божы суд. І вось яна, расплата,
з табой, цывілізацыі кастратаў.

Была віна Яго, і «акружэння».
Была віна «ад галавакружэння»,

пакуль фінцілі пяцігодку-клізму
ветэрынары ад сацыялізму.

І паўнарода выбіта за тое,
што ўверыліся ў сонца залатое.

Вунь мацае на лбе чарговы гуз
няўклюда на планеце — беларус.

Што ён прыдбаў сабе? Глухія гены,
гнілыя рэкі, рэйкі, сцены, вены...

Бо ад яго нічога не прыдбалі
Вялікадні, Каляды і Купаллі...
З пустой душой мы перад Богам сталі.

## РУМ

На беразе жыцця,
на беразе Дзвіны
стаіць вялікі рум
яшчэ з часоў вайны.
Сцякае з бервяна
жывіцы даўніна.
А беражэ той рум
і Волта і Дзвіна.
Здалёку чую гул
сасновага камля:
нібы заве мяне
прыдзвінская зямля
А я Дзвіне — ніхто,
пакуль (як ні лаўчы)
ляжаць мае сцягі,
маўчаць мае мячы.
Здалёк свіціцца рум
бурштынавай луской
і воляй баравой,
і доляю людской.
З яго я свой ганок
вяжу... На быстраку
пазнаць жыццё ракі,
пазнаць жыцця раку

**УКРЫЖАВАННЕ**

Звісаю над вамі. Цвікі
здзіраюць з крыжа маё цела.
Ці ж божая маці хацела
пакуты такой? А вякі
высушваюць кроў і чало.
Гараць мае вочы і вусны.
Хто я — іудзей або рускі?
Настаўнік або памяло?

Звісаю над вамі. Кружу.
Галгофа напоўнена грэхам.
Мільёны гадоў буду рэхам.
Пранікну у вашу душу.
І як бы вы там ні клялі
Хрыстоса, Майсея, Пілата, —
з а кожную злобу а д п л а т а
чакае усіх на зямлі.

За кулю, атруту, за нож,
за слова з кляцьбою і матам —
а д п л а т а .
І з Юдам расплата
за кожны няправедны грош.

Крычу я над вамі:
— Ату!
Хоць Бога пабойцеся, людцы!
Уніз вашы сэрцы сарвуцца.
Адзін я — уверх! — узляту.

Там буду я небу служыць,
закрыўшы вароцейкі раю.
Калі дабрыня вымірае —
у пекле вам толькі і жыць.

Распяты не я на крыжы,
а вашы уласныя цені.
Цвікі саржавелі. І церні
тырчаць з неўваскрэслай душы.

## ШЧЭП

Смяюся з басаногага
вясёлага прадвесня...
Ад матчынага полага
што засталося? ПЕСНЯ.

Шугалі дні вырослыя,
дзе кожны міг — як цесля.
З каханейка узнёслага
што засталося? ПЕСНЯ.

Калі шляхі цвярозыя
пераступала плесня, —
надзеі нашы з крозамі
уберагала ПЕСНЯ.

Мы, змучаныя кручамі,
ідзём усё балесней...
Са шчасцем на заручыны
патрэбна сэрцу ПЕСНЯ.

Яна адна нятленніца,
хоць ты ад крыку трэсні.
Загубленае вернецца,
калі успомніць ПЕСНЯ.

## ЗАМОВА-ПРЫСУШКА

З чорнай ночы
аднаверцы
узняліся:
　　— Вочы ў вочы!
　　— Сэрца ў сэрца!
　　— Мыслі ў мыслі!
Зло адчуе:
ў кожным кроку —
тут дажынкі...
　　...Не хачу я
　　ў тваім воку
　　парушынкі.
Я баюся
(і падумкай!)
гора несці:
　　ўкаранюся
　　ў бераг тупкі
　　добрай весцю.
— Хто ахвочы,
каб сустрэцца
на узвыссі?
　　Вочы — ў вочы!
　　Сэрца — ў сэрца!
　　Мыслі ў мыслі!

## ДВА ПРОМНІ

Што ёсць радней на гэтым свеце?
Зацалаваная шчака!
Смяюцца ласкавыя дзеці —
мае сыночак і дачка.

Я халады свае не помню,
пякучы забываю крок.
Працяг жыцця — двухкрылы промнік —
мае дачушка і сынок.

Вы падымаецеся ў вырай,
вы — два вытокі з ручайка.
Жывіце доўга, светла, шчыра,
мае сыночак і дачка.

Пачнеце новае вы вецце,
гадоў разгоніце чаўнок...
Што ёсць радней на гэтым свеце?
Мае дачушка і сынок.

## НОЧ

Ночка — дарунак боскі,—
як мне цябе прыняць?
Чую праз росы босыя:
шаты твае звіняць.
            Наперарэз
            ў лес
            крэша
хітрая цішыня...
Веру ў тваё бязгрэшша,
ночка весняга дня.
Знаю, і ты паверыш
светлым маім крылам...
Ноч, я світальнаму вершу
тайны твае аддам, —
хай маладзее ласка,
сцежка не йдзе наўзбоч...
Не адцвітай жа, краска
з імем зёлкавым:
            ноч.

**ЦЕНЬ КРЫЖА**

У задзічэласці жыву.
А рупіцца з'явіцца
табе як снег на галаву
ў пустэльныя Грамніцы.

У такую непагадзь сабак
не выганялі з хаты.
А я здарожыўся, басяк,
на ласку небагаты.

Жыццё — то сяк, то наўскасяк
збірала дні гавення.
Плячо ўціскаецца ў касяк:
— Шукаю прытулення...

Зірну я на тваё чало,
да німба прыгарнуся...
Без нас Радзімы не было б.
Любоў, прыбеларуссся!

Нароўні з моваю зямлі
жыве кахання мова:
дзе толькі сэрцы загулі —
гарыць яго замова,

і тчэцца унія вачэй,
у згодзе мыслі, вусны...
І на агні такіх начэй
снег запячэцца згусны.

Ляжыць грамнічная мяжа:
бясследна не растане,
бо застаецца цень крыжа —
тваё й маё каханне!

## «ГОРА» ЦВІЦЕ

Пагаворым. Пастаім.
Паўжыцця сплыло!
На пазногціку тваім
«гора» зацвіло.
Узляцела з-пад павек
сінізны крыло...
На пазногціку ж, як здзек,
«гора» зацвіло.

— Як жывеш?
— Не бабылём!
— Трапіў у сіло?
— Будзь я нават каралём, —
«гора» зацвіло.

Цвіў нам бэз,
свяціў язмін сцежку за сяло..
Як апошні успамін —
«гора» зацвіло.

Сніцца часта на зары:
цмокае вясло...
...Хай кату на пазуры
сядзе тое зло.

## ПАРАТУНАК

Пры свечках дзвюх — адзін.
Я збег у адзіноцтва...
Чароўнае сіроцтва!

Дамоклаў меч ільдзін
глядзіць уніз не хціва.
Адзін... Якое дзіва!

Пад пахай веташка —
на срэбным полі хата:
да страт маіх даплата.

Тут волі — да сучка
заснежанай яліны.
Адзін, ды не адзіны...

Агеньчык на радкі
глядзіць усмешна з грубкі:
«А дзе крыло галубкі?» —
«А там, дзе кіпцюркі».

У герб душы ўпілося
самотнае калоссе
размежаваных дзей.

Пішу пры двух агарках.
Дамоклаў меч над каркам.
І ветах-дабрадзей.

## ЗАЛАТЫ РЖЭЎНІК

Безгалосыя, бескалосыя
паабапал дарогі палі.
Тут камбайны прайшліся пракосамі
(дзе не скошана — не былі).

А машына бяжыць, не спыняецца.
На ржэўнік гляджу я здаля.
Уздыхае шаша, напінаецца:
ля асфальта засмягла зямля.

Так і з намі, любімая, сталася.
Каб не быць да канца ў забыцці, —
тармажу. Ты ў мяне запыталася,
як па жыце плысці, па жыцці?

Запалю нашу пожню скаромную,
ў горкі дым я цябе захіну.
Жыць — спажыць і свабоду няўтомную...
Хочаш, воблака я скалану, —
каб упала на трасы, на вуліцы,
перакрыла дарогі для тых,
хто счарцвеў, і засмяг,
і не туліцца
да калючых палёў залатых.

## ЦЫФЕРБЛАТ НОЧЫ

Цёплая, вясення і ціхая,
водарная кронай маладой...
Як гадзіннік, ноч такая цікае
з цыферблатам — поўняй залатой.

Селі мы, такія непадобныя.
Прытулілася, а я маўчу...
Шле ўжо дзень прамені растаропныя, —
з ночкай развітацца не хачу.

Стануць ночы горкія у шэрагі...
Ад вясенніх асалода нам.
Не бываюць ночы траўня шэрымі
закаханым, кветкам, салаўям.

Цёплая, утульная і ціхая
ноч у парку стрэнецца з табой.
І да золку хай гадзіннік цікае
з цыферблатам — поўняй залатой.

## ПРЫМІ..

Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць.
Даўно мы адлюбілі нашу маладосць.

Перажылі вясны зялёны першы гром.
Асмяглая рака трымае наш паром.

Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць.
Ты госця для мяне, і я — твой добры госць.

Так блізка берагі шырокага жыцця.
Ты спадкаемка мне. А я — цябе працяг.

Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць.
Узрадуецца лёс — чароўны ягамосць.

Ён пашкадуе нас, і доля не міне.
Абудзіцца любоў і ў пажылой вясне.

Прымі мяне такім, якім я сёння ёсць.

## МОВА СВЕТУ

Туман развейваецца згусны.
Ты прада мной. Не трэба слоў.
Перакладаецца як «вусны»
незразумелая любоў.

Пакуль з табой мы ў паняверцы
схіляем чубчыкі галоў...
Перакладаецца як «сэрца»
яшчэ не смелая любоў.

Кахання міг, дваіх вылечвай!
Узнось да самых аблакоў!
Перакладаецца як «вечнасць»
нетлумачальная любоў.

Адзіная на свеце мова
без перакладаў і паслоў.
Ты прада мной — жывое Слова
Выратавальнае — ЛЮБОЎ.

## СОНЦА

Я да цябе прыйду
і сонца прывяду, —
каб зноў заначавала:
каля лампадкі спала,
забыўшы злыбяду.

А вечаровы час
адных не кіне нас.
Мы сонечныя промні —
сумоўныя! Запомні:
наш вечар не пагас.

ён вытчацца ў зару.
Дзень прыйдзе — у пару:
і сонейка прачнецца,
з любоўю усміхнецца
і пойдзе — угару.

А мы — услед за ім.
Нам добра — маладым!
Пакуль не звечарэе,
каханне-сонца грэе
усім, усім, усім.

## НЕ ЗАСНУ!

Захілюся за сасну... Не засну,
на сухіх суках павісну я
бліскаўкай.
Загарыцца і сыр-бор
і твой двор
пад агністаю маністаю блізкаю.

Захілюся за сасну, не засну:
не пушчу цябе між сосенак
гушкацца.
Прагінаецца зямля
ля камля
з адзічэлымі пахучымі грушкамі.

Захілюся за сасну, не засну, —
дачакаюся, абранніца, раніцы.
Будзеш доўга шкадаваць,
бедаваць,
што раней мы не сустрэліся — каяцца.

Захілюся за сасну — і засну...
Разбудзі мяне на золаку,
золатца.
Буду росы мілаваць,
цалаваць
між трох соснаў заблукаўшага моладца.

## ЕФРАСІННЯ

Мне не суджана на вяку
два разы ў адну раку
увайсці.
Мне не суджана, мілы мой,
для цябе быць другой вясной
у жыцці.
Я — адна
кветка зорная
з неба сіняга.
Я — вясна
непаўторная:
Ефрасіння я!
Мне не суджана быць другой,
бо сама я плыву ракой
па Русі.
Са святой душой ты прыйдзі,
ад Радзімы зло адвядзі.
Адпрасі.

Мне не суджана пакахаць.
Буду веру аберагаць
ад грахоў.
Цераз полымя гарадоў
прыплыву да сваіх братоў
па любоў.

## ВІШНІ ЦВІТУЦЬ

Вішні цвітуць.
Іх вячэрнія ветразі
весняй абновай
лунаюць па беразе…
Вішні цвітуць.
На радзіму ўспаміны плывуць.

Стануць на ростані
недзе за вёскаю
з ліпамі рослымі,
з ціхай бярозкаю…
Вішні цвітуць.
На радзіму ўспаміны плывуць.

Слухаюць кожнае
рэха зарэчнае
росы мурожныя,
песні спрадвечныя…
Вішні цвітуць.
На радзіму ўспаміны плывуць.

**ДОЎГІ ДЗЕНЬ**

Быў самы доўгі дзень.
 Кароткая фіранка
прымала на пастой вячэрнюю зару.
Быў самы доўгі дзень.
 Свяціўся ён ад ранку
праменнасцю густой ушыркі і ўгару.

Быў самы доўгі дзень.
 І навісалі цені
чароўнаю дугой на словаў перазвон.
Быў самы доўгі дзень.
 Самлелі летуценні,
а келіх са смугой скаціўся пад адхон.

Быў самы доўгі дзень.
 І чэрвеня арэлі
адгушкалі красу узнёслае вясны.
Быў самы доўгі дзень,
 які з табой сустрэлі.
Яго я панясу у ласкавыя сны.

Быў самы доўгі дзень
 кароткае сустрэчы
для абнадзейных слоў, якія мы знайшлі.
Быў самы доўгі дзень.
 Ён быў нібыта вечнасць...
А вечная любоў ёсць толькі на Зямлі.

«А ЕСТЛИ ПРИСЯГНУТИ НЕ ВСХОЧЕТЬ, ТОГДЫ РЕЧ СВОЮ ТРАТИТЬ».

Статут Вялікага княства Літоўскага
Раздзел 4, артыкул 81
Вільня, 1588 г.

## СЕНАКОС

Удовы чаркай плацяць
за спешны сенакос.
У памяці ўсё ладзяць
той, даваенны воз...

Касар трымае чарку.
Усмешна касару:
на ёлкую ён скварку
глядзіць, як на зару.

А лішняга баіцца,
хоць прымаўка — за тое:
«Есць і мужу ва ўдавіцы
сёмая доля»...

Удовы чаркай плацяць
за горкі сенакос.
Даўно не могуць плакаць:
адвыклі і ад слёз.

Даўно тут іх туга
іскру не выкрасала...
На конікаў чарга.
І на касцоў — таксама.

## КРОПКА НАД «І»

Тыя, хто не гультаі, —
ставяць кропачкі над «і».
Касманаўты і сяляне,
малдаване і смаляне,
латышы, літоўцы, ненцы
павыкідвалі каленцы:
выйшлі на свае палі
ставіць кропачкі над «і».

Есць шчаслівыя краі,
нават і грашовыя...
Украінцы, ў вас над «і»
кропкі спарышовыя:
дзве, неабыякавыя —
як зярняткі макавыя.
Мо іх доля і ўпасе.
стаўце кропкі вы — усе!

Над Расіяй бачу ззянне:
ставяць кропкі расіяне.
Над якою літарай?
— Клічнік ставім лідэру!
— Стаўце і фазэнду
свайму прэзідэнту.

Беларусы, дзе сярнічкі?
Бо не кропкі ў вас, а znічкі.
Ад граматыкі у класе

толькі калька засталася.
Мяккі знак — у дэфіцыце...
Вунь указка у руцэ:
— Этих деточек учите
на понятном языцэ!

Каб раіліся раі,
стаўлю кропку я над «і»,
пад крывінку-кроплю —
бацькаву аглоблю:
хай стаяць, як ліх-та-ры,
нашай мовы лі-та-ры!

**БУЛЬБУС**

Глядзелі прусы і жмудзіны:
знайшоўшы Нёмана рыгво[1],
уверх плылі чыесь віціны...
...Аселі людзі. Ха-ра-ство!
Расклалі прышлыя начынне —
і ахнулі па той прычыне,
што ў іх укралі па дарозе
таемны бульбус[2].

У трывозе
майстры шытва, майстры злітва
жавалі рэдзьку, рэпу, моркву...
Як продак мой зямлю ні поркаў,
а бульбы вёсачка Літва
не мела: яблыкі зямныя
хавалі дзесьці людзі злыя.
І высціг вестачку прынёс:
за акіянам бульбус рос.
Калумб яго нам і прывёз.
О, елі бульбу ад душы
русіны, ляхі, латышы...
І хто тады ліцвінам стаўся,
таксама бульбай наядаўся.
Забагацелі бульбашы:
браў бульбус штурмам кірмашы.
Свет накарміў, залез і ў брагу,

---

[1] Рыгва — вусце.
[2] Бульбус (лац.) — яблык.

каб наталіць пякотку-смагу.
А бульбашы-гаспадары?
Яны прыціхлі да пары.
Бывае, той-сей і згадае
пра бульбашоў, калі іх лае,
або захоча беларуса
прывабіць да свайго хаўруса.
Не помніць і мая хаціна,
пры чым тут бульбус і лаціна:
не вывучаў этнагенез —
кудыхтоякчамузалез?
Але ёсць козыр незнішчальны:
вось помнік вечна велічальны —
свяшчэнны бульбус бульбашоў.
Наіц корань ад яго пайшоў!
Ён каля сала ці салату
не будзе яблыкам разладу.
Ён добры друг для ўсіх зямлян,
бо добра помніць: ім абедалі
яцвягі, прусы і Літва...
Глядзіць наш плод з энцыклапедыі
як беларусаў булава.

**ПАСТУЛАТЫ**

«Жыць не будзеце багата ј заможна!»
Зараз — можна,
«Не карміцеся разбойна і аблажна!»
Зараз — можна.
«Ды не спіце ж у канаве прыдарожнай!»
Зараз — можна.
«Анекдоты? Толькі ціха, асцярожна...»
Зараз — можна.
«Не хадзіце там, дзе ніўна і мурожна!»
Зараз — можна.
«Хто паскудзіць і прылюдна і падложна?»
Зараз — можна.
Растрыножана жывуць усе...
(Трывожна.)

## НА ШАЛЯХ

Я быў не «супраць» і не «за».
Я — устрымаўся.
Вісела смеласці сляза:
нібыта з вастрыём ляза
сучок змагаўся.
Сумненню я наперакор
не ўзвысіў голас...
Яго забраў шалёны хор —
як дрэўца паглынае бор,
а жэрла —, колас.
Угоднікам свае загнаў
на дыбу годы.
Ах, каб жа напачатку знаў:
дзе многа згоды — мала спраў, —
адны нягоды.
А я ж з суседавай струной
хацеў быць радцам!
Цяпер — ці сябра за спіной?
Мо пойдзе на мяне вайной?
Мо сам стаў здрайцам?
Франтоў святлее паласа.
Кансэнсус склаўся.
Падсохла горкая сляза.
А я — асмеліўся? Мне б «за»,
ды кончылася кілбаса.
Зноў устрымаўся.

## СКАЖУ Я БОГУ...

Жыву... Іду... Усё далей...
З Зямлёю Неба ліжыцца.
Шчыруе вершык-дуралей.
Класічны ўсё не пішацца.
Адмерана — як znічкі след —
жыццё маё упрэжнае.
На верш даўжэй жыве паэт,
калі жыццё бязмежнае.
...Калісь Пярун уткне багор
ў прыдзвінскі бераг з лодкамі...
Перасялюся ў родны бор —
і буду разам з продкамі.
Патраплю, думаю, у рай
(у пекле быў, азмрочаны).
Скажу я Богу: «Не карай.
Усе грахі аплочаны
цаной бутэлек, латарэй,
пустымі ганарарамі...
Святымі словамі сагрэй:
сыты я марнатраўнымі.
Пакутнік, пяцігодкі жыў
з ружовымі надзеямі
і беспрасветна даражыў
стограмнымі нядзелямі.
На камунізм глядзеў здаля,
чакаў чынушы міласці.
Цярпеў. Уся мая зямля
цяпер — Зямля Цярпімасці.

Шкада такую пакідаць,
бо захірэе пожанька...
Лепш пачакай раба хаваць
пакінь - наверсе! - Божанька

## СПАДКІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

— Камянёў тут — хоць забіся,
а вады — ну хоць заліся...
Прыкупіўшы хлеба — можна жыць.
Сеялі і малацілі...
Раптам нас «асвабадзілі»,
на прыгон штодня прымусілі хадзіць...

І вось бацька перад смерцю,
гаварыў:
— Вы мне паверце:
два чырвонцы — вось і пенсія мая.
Дзякуй «роднай» ўладзе:
з пекла ў рай мо перасадзіць,
бо ў калхозе я не быў за гультая.
Толькі ўсё пайшло на вецер:
пустазельна ў нашай клеці,
пустадомна у заціснутай душы.
Мне лягчэй: сыходжу з поля.
Ну а вам якая доля
усміхнецца на раскіданым лаўжы?

## «ПАСЛЯ ЎРОКАЎ»

Ніхто нічога не баіцца.
Няма ні розгі, ні «вугла».
Даўно ў музеі чапяла:
«дапамагала» мне вучыцца.
Я так баяўся ненарокам
змыліцца. Фізік пагражаў
закрыць мяне пасля урокаў:
там я задачкі і рашаў.
Але папраўдзе памагаў
мне хутарок:
пяць вёрст — і школа.
Быў кожны школьны год
што кола:
круціўся, шлёпаў, уздымаў.
Ніхто не ведаў пра «двухмоўе».
Каму? Навошта? З кім і як?
Не думаў і ў гародзе мак,
што ён смяротны для здароўя.
На ўсё — свой час.
Мой час удаўся.
Цяпер ён, мудры, зноў азваўся
перабудоўшчыкам душы,
мяне заве: «Дапамажы!»
На кліч, як школьнік той, імчуся:
я — «пасля ўрокаў». Я — вучуся.

## НАРЫХТОЎЧАЯ КАНТОРА

Без той духоўнай культуры, што вырастае з нацыянальных традыцый, наш родны дом такі ж казённы, безаблічны, як нарыхтоўчая кантора. І чалавечай душы ў ім няўтульна.

*Ніл Гілевіч, 1991 г.*

Не жыву, адно баюся:
за «Указам...» зноў «Указ...»
Я з Дзяржавы-Беларусі?
«Родны кут» дзяржаўны ў нас:
Кут-закутак, Край-старонка, —
той, што іншым не раўня...
Эх ты, лодка-пласкадонка —
беларуса мазгаўня!

Пасмяяцца можна ўволю,
як мы хвалімся-жывём.
Заўтра мы сябе аголім
шорсткім венікам-гальнём, —

застануцца толькі косткі
на шкілет — абы пазнаць;
быў такі народзец порсткі,
і была ў народа знаць;

кіраваць яна умела —
давяла да галыша...
Знаць і ведаць не хацела,
дзе сумленне, дзе душа!

...Ёсць пра што мне думаць думу,
каб свой век не рассмяшыць.

Столькі болю, столькі суму...
А калі ж мы будзем жыць!

Столькі рознага начыння
глотку, рэбры пераццяць...
Столькі чорнага ў Айчыне
роднай, Белай... Чуць мігцяць
нашы срэбраныя Словы,
залатыя Алтары,
і шляхетныя галовы,
і шляхечыя двары...

Ці ўратуемся ад ліха?
Мы ж сябе не пазнаём...
Глянь: чарговая «адліга»
чуць кранула чарназём...

Я з чарнобыльскага мора,
а чытаю, як балван:
«...нарыхтоўчая кантора
перавыканала план!»

**КОНЬ**

Возьмуць коніка ў аглоблі:
«Дзе віно?»
А паедуць, то і суткі не відно.
Стала мода на работу прападаць...
Дзе наш конік?
Павялі яго здаваць.
Можа, пешкі сёння ходзяць за вінoм?
На бензін мо паявіўся аканом?
Конь сівенькі, даражэнькі...
Зноўку чую:
як тваю бяруць у рукі
людзі збрую.
Гарлапаны цераз пашы —
напрамкі!
Топчуць родненькае, наша
лайдакі.
Рвуць карэнне, рэжуць сук...
Ды што казаць,
помню: бацька дзягу мог распяразаць.
Ну а сёння? Будуць «лекцыю» чытаць.
Хто цябе, конь даражэнькі, упасе?
Быў на гербе, быў на ферме,
ў каўбасе...
Сёння трэба ўпірацца нам ямчэй.
Без тваіх ці ж утрымаемся плячэй?
Конь сівенькі, даражэнькі,
падсабі.
Капытамі нашы бедачкі адбі.

Шоры выкінем, і цуглі, і аброць...
Мы пагонімся наперад.
Хто супроць?
Ах, забыўся. Напярэймы — лайдакі
як бульдогі, на бульдозеры з ракі.
Конь сівенькі, даражэнькі,
дзе наш меч, —
трэба немач захірэлую адсеч.
Нашай долі уздымацца з караня!
Адратуем і Дзяржаву і Каня!

**ПЕРСПЕКТЫЎНАЕ ВЯСЕЛЛЕ**

У ціхай вёсцы Навікі
гуло вяселле. На вякі
падзея адбылася —
наш ажаніўся Вася.
Тут не было яго віны:
расло дзяўчо каля Дзвіны
і так зачаравала, —
да загса не адстала,
бы заварыла зелле.
Прыйшла пара вяселля.
Гудзе вяселле, быццам рой.
Мядок, наліўка... І гарой
прысмакі на стальніцы.
Вядома ж, не ў сталіцы,
дзе госцю закупорка:
хто-небудзь крыкне «Гор-ка!»,
забыўшыся загубна,
як весці рэй пашлюбны, —
каб розум продкаў, свет дзядоў
пранік у галас гарадоў.
Гуляюць нашы Навікі!
Тут і сваты як два быкі:
не хочацца — прымусяць,
бо за сталом не хлусяць.
Адзін, ва ўсёй прыўкрасе,
усклікнуў светла: — Вася!
Хай жоначка маўчыць.
Вучу цябе лічыць

і аэробікай лячыць, —
каб доўга жыць.
Раз, два, тры, чатыры…
Падымай свае ты гіры
пяць раз на начы,
шосты раз устаючы,
сёмы раз на зару —
выйсці з хаты упару…
Другі сваток —
а быў не зломак! —
не лез далёка ён за словам:
— Мае зычэнні ўсе — нявесце.
Што б ні было, ты будзь на месце, —
і каб ні прочак, ні развода,
аж да двухтысячнага года…
Каб так, як сёння, век жылося,
у гаспадарцы каб вялося,
і, як у лося, вам маглося,
пілося, у ахвотку елася,
не сумавалася, а пелася —
і яшчэ больш хацелася!
У ціхай вёсцы Навікі
спявалі людзі і вякі:
усе былі актыўныя,
а значыць — перспектыўныя.
Калі народ вясёлы —
на знос не пойдуць сёлы!

**ЖОНКА**

Рвецца там, дзе вельмі тонка.
Ці ж мяне не любіць жонка.
Не плячысты на жывот.
І яна — не калаўрот.
Будзе жонка беражонкай,
для мяне — дзяўчынай гонкай.
Даражэнечкія братцы,
увесь век хачу кахацца,
бо улюбчывы народ
не старэе ад нягод.
Будзе жонка беражонкай,
для мяне — струною звонкай.
Пушкін жонкай ганарыўся,
лёсу горкаму скарыўся.
Мужыкі! Вас навылёт
жончын прабівае шрот.
Будзе жонка беражонкай,
для мяне — шчаслівай гронкай.
Рвецца там, дзе вельмі тонка.
Пажалей жа мяне, жонка:
не падносак я, не бот
і не з пекла чорны чорт.
Будзе жонка беражонкай,
залатой маёй скарбонкай!

## СЯБРОЎКА ГАННА

Гартайце старажытныя пісьмёны.
Чытайце нашы -даўнія імёны.
Паўлінка, Каралінка і Параска!
Тут кожнае імя нібыта казка!
Глядзіць з экрана Анна.
А я — сяброўка Ганна.
І як сказаў паэт:
я для яго — Анэт!
А родная матуля
заве мяне — Гануля!
Цалуйце Анжэліку, Віку, Ніку,
любіце Ію, Іну, Вераніку.
Успомнілі Людмілу? — Калі ласка!
Любімае імя — нібыта краска.
А хто забудзе родныя імёны —
забудзе і пра векавыя кроны,
і як ляцяць над Беларуссю гусі,
як любяць Зосі, Просі і Ганусі.
Глядзіць з экрана Анна.
А я — сяброўка Ганна.
І як сказаў паэт:
я для яго — Анэт!
А родная матуля
заве мяне — Гануля!

«УСТАВУЕМ, ИЖ КОЖДЫЯ МАЕТЬ МЕТИ МОЦ О РЕЧАХ СВОИХ РУХОМЫХ ТЕСТАМЕНТ ЧИНИТИ (...)».

Статут Вялікага княства
Літоўскага
Раздзел 8, артыкул I
Вільня, 1588 г.

**НА ТРЭЦЯЙ ПЛАНЕЦЕ**
**АД СОНЦА**
*(Дыярыуш)*

* * *

Шлем струхнее іржавы
і кальчугі плячо…
Не, не пойдуць дзяржавы
у абдымкі мячоў.

* * *

Нахабнай сёння стала кніга ў глянцы,
дзе ладзяцца сюжэты на крыві,
дзе лоўка выцясняюцца паўстанцы
ліхімі мушкецёрамі любві.
Прыгожа паміраюць літгероі
на дэтэктыўных персях у юру.
Не так, як пад Сяргеевай гарою…
Ад сораму згараю за муру.
Пяройдзем Брод[1] уброд,
дзе кроў па вушы:
хрышчэнне прымем курапацкіх душаў,
раструшчаных на сталінскім крыжы,
каб не служыць — і мысленна — ілжы.

* * *

Выводзіць чуйная рука:
«Я — з Ветаху, з Маладзіка.
Панікне ў сэрцы веры вежа,
я — толькі з чорнага Сумежжа».

[1] Сяргеева гара, Брод – курапацкія мясціны пад Менскам

* * *

> Днесь весна красується оживяющи земное естьство, и бурьнии ветри тихо повевающе плоды гобьзують, и земля семена питающи зеленую траву ражаеть.
>
> *Кірыла Тураўскі*

Сябе вы хоць у вежу замуруйце,
як той Кірыла Тураўскі, — вясна
вас адшукае, каб спяваць у гурце:
— Вяс-на-крас-на!
Вялікдзень. Вы грэх чужы даруйце —
і грэх душы уласнай не гадуйце,
каб зелянела лётаў баразна.

* * *

На месцы пялёсткаў белых
шрапнелікі дзічак.
Ад жнівеньскіх зораў спелых
трасёры знічак.

* * *

Мой біярытм — слуга увагі, —
з экрана сэрца не сатры
сігнал: «Прыехалі варагі»,
сігнал: «Прыехалі сябры!»
Мой біярытм! Самкнуць павекі
я не змагу: не хоча век.

У біяполі — чалавек.
Хай не растуць нечалавекі!
Я ратаваўся у бядзе.
Але няма ратунку ў здрадзе.
Служыце, біярытмы, праўдзе,
а праўда нас не падвядзе.

* * *

Быў пляц Волі. Менск гудзеў,
аж пакуль не схаладзеў
ў зэкаўскай бязмежнасці.
Плошча Леніна гула
ад гулагаўскага тла, —
і нарэшце стаць змагла
пляцам Незалежнасці!

* * *

Вярні народу доўг і пені:
дашчэнту абсмактаў Парнас.
Паэт на седале — не певень,
якому клікаць новы час.

* * *

Сыходзяць дні.
Я ў іх нязваным госцем.
Камп'ютэры, правёўшы свой падлік,
набыткі маёй долі ускалосяць,
запішуць на фінал: «Быў... пан... і знік».
Паўстане суд за годы недароду
і за грахі усіх маіх згрызот.

— Каму служыў?
Скажу я, што — народу...
Але ж ці быў гаспадаром народ,
калі з мяне выводзілі пароду:
сляпенькую савецкую істоту,
якой не пазайздросціў бы і крот.

* * *

З анамнезу Вітэ[1]:
«Не студзіце спагаду, пакліч, мольбы...»

З анамнезу морбі[2] «Не х адз іце па на:д маг ільных плітах».

* * *

Таблеткі піў ад галавы,
ад сэрца, ад валля...
Усё піў «ад...». Яшчэ жывы,
прашу піць толькі «для...».

* * *

Эпалеты? Не! Цяпер бронежилеты —
камунізму ашчаперaны заслон.
Гэкэчэпы самі трапілі ў палон.
З Ільічовым безнадзейным запаветам
у палоне і на цукар мой талон.
Партбілеты... Пастулаты... Пісталеты...
З Курапатамі ГУЛАГі заадно.

---

[1] Анамнезіс вітэ (лац.) — высновы жыцця.
[2] Анамнезіс морбі (лац.) — высновы смерці.

У імперыі прасіцілася дно.
Але прэцца на арэну новых бедаў
кумачовае гнілое палатно.

* * *

Няўжо душу я пракармлю
гразёй наркотыкаў?
Рээмігрыруе «люблю»
пад нашу готыку?
—А можа, вымрэ беларус
паўночным мамантам?..
Умеем утвараць саюз
без ёрмаў, лямантаў?
У ім ці зможам ачуняць?
Кім будзем — клеркамі?
Калі ж ты будзеш даганяць
мяне, Амерыка?..

* * *

З божаю кароўкай гавару:
— На каго, маўклівая, глядзіш?
— Ты да Бога сёння паляціш
ці спадзеш на Лысую Гару?
І якая выпадзе нагода
для майго бяссоннага народа?
Вунь суседзі працаваць гатовы.
Выйшлі на прасветы адбудовы.
Ну а ў нас (і Божаньку нялоўка)
божая не ўскрыліцца кароўка.
Бо указ парламенцкая зграя
кожны раз адразу загрызае.

* * *

Правады для праматы
ля дарог напятыя.
Пазваніў — для праваты —
нумары занятыя.
І ніхто, няхай бы «нам»,
слова мне не высеяў.
Быццам тым званком я сам
ды сябе ж і высмеяў.
Правады праз гады
з праўдай сазваніліся
(мо слупы ад злыбяды
у мой бок схіліліся?).
Ток ад неба да зямлі
па хрыбце адведзены.
...Там, дзе крылы, прараслі
правадоў адмеціны.

* * *

Жыццё вядзе разор.
Паўсотні — мой рубеж.
А я крычу да зор:
— Каханне! Ты жывеш? —
І рэха я лаўлю,
іду на зорны след...
Наколькі я люблю —
настолькі я паэт.

* * *
Есць верш як бас.
А ёсць як альт...
Есць верш, які ляціць стралою!
І дзень пражыты — аналою,
а не ў акурачны асфальт.

* * *
Адзінота! Адзінота. Адзінота...
Гэта пір да самай дамавіны,
гэта чорная пякельная работа...
Толькі — стоп!
Дайшоў да палавіны.
Прыгалублю даўнюю разлюбу,
з адзінотаю прыйду да шлюбу.

* * *
Заблытаецца верш у прасцірадле:
рыфмуецца наўлечка не з пяром
На белым полі, дзе абое рады,
мы — двухрадкоўе толькі...
І паром,
узвей-паром калышацца да столі,
каб доля не пасцілася ў жыцці,
дзе ёсць адно жаданнейка: «Хаці!
і самы чэрствы грэх адзін: «Даволі..

* * *
Імперыя пяра:
з-пад ручкі пырсне порстка
агеньчыкаў іскра
ці згаўканая костка.

* * *
Дзень — учарнеў:
стаміўся дзень лайдачыць.
Цень ночы — гнеў,
калі і ты лядачы.

* * *
Каму не ведама пасцель,
яе скрыпучыя суставы?

Кахання ж краявід — пастэль:
засмужаныя сцежкі; ставы —
нібыта бацькі-Бога лінзы...
Яшчэ нязведаная блізасць,
нязведаныя яе паставы.

* * *
І прыйдзе — міг — на развітанне
імгненне — на разрыў, на злом...
І да апошняга
каханне
душу трымацьме над чалом.
І нават потым, здзірванелым,
яно не сцішыцца зусім,
пакуль не перарвецца ў ім
шытво паміж душой і целам.

* * *

Гарчэў глыток... Не апячы
мяне глытком парожнім.
Гарэў на родненькім плячы,
смылеў на стылай пожні.
Боль можна увабраць нагбом,
і пракаўтнуць гарачы ком,
і верыць: завіднеецца,
душа ўся разамлееш^
адным глытком з крынічкі,
дзе начавалі знічкі...

Яны і ўздымуцца наноў
да босых зор, да боскіх сноў.

* * *

Наляцела бяда. Бяда...
Парасла лебяда.
Тут не б'ецца крыніц жыццё:
забыццё...
Што далей — то дзічэй, дзічэй
у бязлюддзі начэй.
Без тваіх, Беларусь, вачэй
не лягчэй.
Станем змораным воблакам —
зсірацее Сусвет.
Пашкадуйце чарнобылку,
вочы добрых планет!

* * *

(Там, у гарніле заснежанай ночы,
парасткі памяці.)

(Перасяляецца боль
на ўчарсцвелую скібачку верша.)»

(Стрэлкі незаведзеных нанач
гадзіннікаў асыпаюцца.)

(Курапатамі вывяраецца азімут:
прарадзіма вяртаецца з выраю.)

* * *

— А няхай лепш маё пяройдзе! —
прамаўляла бабка Альжбета.
І пераходзіла
яе дабрыня — суседзям,
яе падаткі — дзяржаве,
яе малітвы — Богу.
А потым і яна сама перайшла
у нябеснае царства...
Але і з таго свету даносяцца
яе песні і прытчы —
усё, што неабагулена
калгасам імя Чапаева,
што засталося ад меліяратараў
на бабышкаўскім котлішчы —
лабячку бабулькі Альжбеты.

* * *

Халодныя зоры — небу.
Гарачыя камяні — долу.
А мы са сваёй залатой сярэдзінкай —
ненажэрным жорнам прасторы.

* * *

Спатканне і Слова — знаёмства.
Знаёмства і Слова — дружба.
Дружба і Слова — каханне.

* * *

Маладосць улятае ў каханне.
Сталасць у каханне — просіцца.
А людзі пажылога веку
каханне вымольваюць.

* * *

Прымружым вочы: шарая часінка...
Не выпадае уключыць святло.
І хай на келіху настылая расінка
халоднага віна усцешыцца.

Было... Было — і на жыццё усё
застанецца:
разбіўся дзень на шклiначкі віны...
Прымружым вочы. Нам нідзе не дзецца
на крохкай крызе...
Пасярод Дзвіны.

* * *

Твой вечар мяне напаткаў каля лодкі.
Сузор'і твае мне падказалі сцяжыну.
А салаўі — твае верныя служкі —
таемныя весніцы прыадчынілі.
Зноў золак знаходзіў дарогу праз росы.
І след зацярушыла чаромха.
Зацалаванае сонца ўзыходзіла
на жаўруковых лесвіцах...

Вось тут і забегла наперад
мая і твая нязгода:
— А чаму я пачула: «Бывай?»
Як можаце развітацца з вечарам і сузор'ямі,
з весніцамі і салаўямі?
Зацалаванае сонца — і тое вяртаецца
падставіць шчаку дабіблейскую
пад вусны любові. А вы...
...Колькі ж пройдзе стагоддзяў
ад раніцы гэтай да вечара,
каб зноў пасвятлела самота
на Трэцяй Планеце ад Сонца?

* * *

Пазначу я ў запозненым пасланні
маленькай рыскай ініцыял-ражок...
Хай веташок у светлым прадчуванні
згадае даўні восеньскі лужок.
І каб душа хоць трошкі акрыяла,
пісьмо немаладое разгарні

і на сярпок майго ініцыяла,
нібы на паўпярсцёначак, дыхні.

* * *

Чытаю ліст — і чую голас твой
у рокаце вясенняй навальніцы.
Мне б да цябе дайсці і прытуліцца,
схіліцца бедалажнай галавой
і папрасіць:
— Здымі мае грахі
з усіх тых паваротак, раздарожжаў.
Скажы, наколькі я у ж о благі?
Скажы, наколькі я я ш ч э харошы.

* * *

Вунь — сярод хатняга посуду —
Чаша цярпення.
З кожнага непаразумення
дабаўляюцца кропелькі вадкасці
незразумелай якасці.

Пуд солі раствораны ў Чашы,
мядовыя месяцы нашы...
О Чаша цярпення з сервіза маладажонаў!
Хоча не хоча мая сям'я, —
я кроплю туды і жонка;
жонка кроплю туды і я...
Поўніцца наша Чаша...

* * *

На шыбе градуснік трымцеў.
Дзівак на градуснік глядзеў.
Ды ці варыла галава?
Крычаў дзівак;
— Глядзіце!
На цыферблаце — 22,
а сонца — у зеніце!

* * *

Лёс, пэўна, чэрці вырашалі,
нягледзячы на каліту:
хацеў залезці на скрыжалі,
паспеў — пад шэрую пліту.

* * *

З макулатурнай калаверці
(ў літаратуру лез сільмя)
адзін радок ён абяссмерціў:
на мармуры — яго імя.

* * *

Не сумнявайся, дарагі прахожы:
няма вышэй магільнай агароджы.

* * *

Вазьму зару за крылы:
— Нясі на ўскраек мора,
дзе хвалі крыўды тояць, журкотна душы
студзяць.

Няхай вятры успомняць, што я —
іх брат крылаты,
а не аглухлы дзядзька, плячысты на жывот.

* * *

Спрадвеку ў свеце нічыя:
ёсць Бог і Акаяны —
то рвуся я да ручая,
а то — праз акіяны.
Хрысту малюся, Перуну...
Бяда — і дух мой ніцы
хапаецца не за струну, '
а за падол спадніцы.

* * *

Няўцешны і няўсмешны міг.
Але жыцця надзею маю.
І за «настаўнікаў» сваіх
удзячны кубак уздымаю.

* * *

ЧысленнікЛістападаТанчэеПадВетрамКляновага
ВечараНоваяСтратаДалучыцьГлухоеПрадонне
ДаГулкагаПаднябессяЛістотаКляноваяСцелецца
НаШляхНаш Адвечны.

## ДЫЯРЫУШ
## МАЙГО АДКРЫЦЦЯ АМЕРЫКІ

*Прысвячаецца місіс Дагмар Волкат — перакладчыцы, паэтэсе, выкладчыцы універсітэта ў г. Калумбус (штат Агайя). Бацька яе нарадзіўся на Мараве ў Чэхіі.*

* * *

Не даў Бог мора беларусу.
Зямляк на роўнядзі зімеў.
Калумб наш дома пасівеў,
адкрыўшы межы для прымусу.

* * *

Закрыць Амерыку хацелі
жгутом цэкоўскае кудзелі.
Быў рады кожны літаратар
слязу пусціць, як алігатар,
і, выбіўшыся з «кіпцюроў»,
разбэсціць у партыйнай прэсе
ў прыпадку велічнай агрэсіі
краіну, дзе ён стаў здароў.

* * *

Не будзе «барацьбы»? Раздолле «ворагу»
Не будзе натаўца? Не будзе пораху?
...Эх, дажыліся... Ды напята лейчына
Напалеона каля карэты Ельцына.

* * *

Гаварыла баба дзеду:
— Я ў Амерыку паеду!
Суцяшалі сваякі:
— Туды не ходзяць цягнікі...
Цяпер — трапляюць летакамі.
Але чаргу чакаць — вякамі.

* * *

За вершы пра замежнае найменне
турма чакала. Потым — пасяленне.
Але будзь Сталін сем разоў няласкаў, —
не трапіць мне на высылку ў Аляску.

* * *

У Віцебску матулечка жыве.
Яе вайна дасюль штыхом штурхае.
...Як місіс Лоўлар радая траве!
О як дачушка Ала уздыхае!
...І толькі Данчык ведаў: мама Юля[1]
наканавала стрэчу, як зязюля.

* * *

Апоўначы мы «грабанулі» грошы,
бо Данчык меў свой банкаўскі жэтончык.
Амерыканчык Данчык! Друг харошы!
Я ў Менску за купон купляю пончык.

[1] Спадарыня Юля Андрусішына пасрпыяла першай сустрэчы пасля вайны Анне Іванаўне Дземяншчонак і яе дачкі Алы

* * *

Не варажы, цыганка Аза:
не спраўдзіцца дакляраваны.
...Служыў мой дзядзька фірме «Анза»[2]
і не давёз дамоў ні франка.

* * *

Перад Чыкага разгубіўся ўраз:
з трубы — агонь,
вунь дым плыве навобмацак...
Як быццам прада мною Наваполацак,
дзе вісне над Дзвіною сіні газ.

* * *

Не мог мой цёзка пераступіць мяжу
мацерыка гулага-курапацкага...
А як жа мне пераступіць ілжу
прыстасаванства нашага жабрацкага?

* * *

«Арсеннева...» Настрашаны, баюся
сказаць: «Яна — дар Бога. Беларусі».

* * *

Шаптаўся «Полацак»[3] гулліва...
Устаў. Пазваў, нібы ў паход:
— «Зрабі свабоднай, зрабі -шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ»:

[2] Фірма «Анза» з шахцёрскага горада Валанс'ен (Францыя)
[3] «Полацак» — беларускі культурны цэнтр у Кліўлендзе (штат Агайя).

* * *

Крутнуў Антон свой руль ў хісткай Лодзі.
Прымкнуў тут Янка хісткі караван...
Нью-Йорк. Журкоча з мінералкай кран.
І ў нас стаіць і не гніе калодзезь.

* * *

Кіпела згусна Штатаў лета.
Чаму не ўпаў ад іх у шок?
Трэніравала слых і зрок
Чэхаславаччыны «Маркета»:
там у суботу ў сем гадзін
купляў віно грамадзянін,
адзін-адзін. Зусім адзін.

* * *

Стаяў пад Пльзенем самалёт.
Сказаў Забэйда: «Мала шанцу...»
І ён не стаў амерыканцам.
Яго накрыў савецкі лёд.

* * *

Рабы былыя просяць без аглядкі:
«Амерыка, мой чорны лік сагрэй!»
...Кляне таксіст — былы мінчук-яўрэй
свае неміласэрныя падаткі.

* * *

А што такое пашпарт, метрыка,
даведка, што не хварэў на пранцы я?
...З любой дзяржавы эміграцыя
чуць болей, чым уся Амерыка.

* * *

Нью-Йорк — як выклік. Горад слічны.
Стрыптызы Стрыгаў, авеню...
Хачу ўявіць сябе: я — клічнік
жыцця, імя якому «Нью».

* * *

Сустрэліся. Чужыя. З двух краёў.
Прыйшло пытанне: «Вы йстэ з Б'елоруска?»
...Найперш і не жанчына бачна: блузка...
А мы ішлі да тронаў каралёў.

* * *

Сінонімы: «Амерыка», «матор»...
А ў памяці прыдзвінскі медны бор.
І ў Дагмар Волкат быў «матор»... А сэрца —
як штатнае — пры ёй і застаецца.

* * *

Ты пад маім небам толькі што была.
Ды павярнулася планета. Адплыла.
Гляджу на аблачынку: профіль — твой...
Які кароткі вечнасці сувой.

* * *

Прыносіць пошта сэрца відарыс.
Калумб між намі. Слоўнік не паможа.

У іншых проста: на сняданак рыс.
Пасля вячэры: «О благаславі нас, Божа».

* * *

Прызнаюся: сядзелі ў рэстаране —
у Кліўлендзе! (Хоць еў і ў Ленкарані.)
Дзе быў шашлык, дзе смакі за даляры —
раскажуць двух паўшар'яў акуляры.

* * *

Там, на Мараве, корань муравы.
Але у Штатах і камель і крона...
...Паэзія — на ўсе вякі — карона!
Штодзённы побыт — чубчыкі травы.

* * *

Рабінавая ноч. Маланкі пяцярня
абшарыла пустэльную кішэню.
Я — «возвращенец». Значыць — размазня:
як марка на канверце пагашэння.

* * *

Вялікую разлегласць не прамераць
і не падблізіць нам мацерыкі...
Што застаецца? А застаецца верыць
у нетры сэрца, у прасцяг рукі.

## ДЫЯРЫУШ 50-й ВЯСНЫ

*У падзяку чэшскім і*
*славацкім дарогам.*

Пазалацела Прага. Сын вясны,
гляджу: тут каралюе Адраджэнне.
На Радаўніцу кветак аглашэнне
дабавіць Празе боскай белізны.

Сталіца эмігрантаў, іх бяды...
Тут пантэон двух нашых прэзідэнтаў[1]...
О золатца! Раскрый кнігоўну ведаў:
без іх збяднелі будныя гады.

Ты паспрыяй, каб далучыць да нас
дух суайчынны, высілкі герояў.
Стаяў за Беларусь — гарою! —
крывіцкіх сэрцаў думны празапас.

Мы спаталяем сёння іх вырост
І дзякуем пражанай за іх шчодрасць...

Узрадуецца ўсё, што стыла ўчора,
што заўтра скончыць несправядлівы пост.

---

[1] П. Крэчэўскага, В. Захаркі.

* * *

Іскрынка божая, ратуй:
не дай ні мне, ні слову згінуць, —
так лёгка божы свет пакінуць...
Іскрынка божая, рыхтуй
душы пакутнае цярпенне.
Надчалавечае ўзнясенне,
іскрынка божая, ўзгадуй.

* * *

Надгробкі пагубляліся — дагаркі
на прысаку загубленых згрызот.

Каля Забэйды не знайшлі Захаркі.
І Грыб Тамаш не выйшаў напярод.

* * *

Ноччу Прага прамаўляе з Полацкам
старабыт сваё карэнне мае.
І калі гняздо наверсе ўворыцца, —
мур-падмурак горад утрымае.

Так і чалавек сваёй карыснасцю
спраўджвае давераную меру:
марамі узважыць веру прыснасці,
сэрцам — ужо споўненую веру.

* * *

Чужым ніколі тут не жыў крывіч.
Такім і я ў чаромхавым натхненні.
А нашыя дзяржавы —
гэта звенні:
па іх — як ток —
адзін іскрыцца кліч.

* * *

Есць рух і лучнасці закон.
Згадаю бежанства, надзею
і Прагі прыцягальны звон.

Перада мной сцяна вякоў.
Не выклікаю дух (Акарыны,
другіх славутых землякоў.

Дух роднасці нясуць іскрыны —
не бляск з-пад танкаў ці падкоў.
Згадаю жнівень — халадзею.

Мне «За́лесі»[1] — пахучы стог —
прадзе вішнёвую кудзелю.
Згадаю крыўду — сам як стогн.
Згадаю праўду — маладзею.

[1] «За́лесі» — гатэль у пражскім раёне.

* * *

Тут сыну нарадзілася імя.
Асвечана крывінка Даліборам.

Дасюль мне Прага свеціцца уборам
найменням «Бацькаўшчына» і «Зямля

* * *

Паэты пагасаюць разам з днём,
падатлівыя змрокаваму ветру.
І з цягам часу кожнаму паэту
выпальваюць таўро сляпым агнём.

ён б'ецца, як лісціначка ў галлі.
Але яго наіў вышэйшай пробы.
Бо летуценні — гэта не хваробы:
ад іх збавенне толькі у зямлі.

Як цяжка мітусяцца у радках,
якія пад навалай злой аслізлі,
маленечкія літаркі: п, а, н, і, з, ь, н, і, к,
пакуль не перальюцца ў выдых «ах...

* * *

З брукаваных каберцаў не сцерлі
пражскія шурпатыя узоры.

І не дапілі мы з вежаў-цёрлаў
начаванне утрапёных зораў.

* * *

Не чую. Прытуляюся. Шапоча
пражанка пра далёкую Хатынь.
І калі скронь пульсуе... Завалочча,
то каля сэрца лідзіцкая стынь.

* * *

«Мы адной крыві», — сябры сказалі.
Пахвалілі нас, а не звязалі
тым пахлопам — зверху — па галоўцы.
Нас узвысілі, а не прыбілі слоўцы.

«Брат старэйшы» так любіў хваліць:
«Мы адной крыві! Без нас не жыць!»

Колькі ж кроў братоў вякамі піць?

* * *

У Празе травень. Першы сенакос.
Сялянская душа мая населена
там, дзе цароўна так,
дзе так па-райску зелена,
дзе я складаю весніх вершаў воз.
У Празе квецень.
Што ж, нясі, віток
жыцця,
мяне на новыя агледзіны —
туды, дзе нова ўсё,
а дзе старое змецена,
і дзе трымціць над скроняй завіток

пяцідзесяты немаўля-гадок.

* * *
У чарах чарачак
віна віна:
я правініўся: так, была — адна! -
якую я запомніў.
Ды баюся,
што і з чарговаю не размінуся.

* * *
Таполя — класіка пяро,
уткнутае у прыдарожжа?

Народа геній тут збярог
усё, што мудра, вечна, гожа.

* * *
З пупышкі прарасла далонька:
хітаецца, вітаецца.
Я, пэўна ж, госць, але не толькі:
,брат ува мне хаваецца.
І ён адкрыецца, як толькі
мне друг заўсміхаецца.
І веру я, што дзвюм далонькам
быць поруч спадабаецца.

* * *
Чым апраўдаю гэткі недабег?
Пісалася паўверша за паўночы:
«Асмеліцца рука —
і ў Брацілавы вочы
зірне маладзіка
брывасты грэх».

* * *
Любі ты Музу:
на цябе глядзіць
і гладзіць, як сурвэтачку, надзею...

Бо можна прамінуць адну падзею
і сэнс жыцця
у прорву паляціць.

* * *
Па вёсачцы даверлівых двароў
мы ходзім, спатыкаючы работу.

Няведама, з якога веку, году
расце дзяржава кветак і мурой

* * *
Вунь шаша. Там час шугае,
не затрымлівае бег.
Я ж- сяджу глухім шугаем[1],
на хаценні маім снег.

---

[1] Шугай — дзяцюк.

Татры сінія — далёка,
а зялёныя — бліжэй...
Тут галёкай не галёкай —
рэха ліпне да вушэй
і не коціцца, не мкнецца
павярнуцца, рагатнуць:
— А мо сэрца ўжо не б'ецца?
— Можна ў рог цябе сагнуць?

З вуха ў вуха час шугае.
Быў шугаем — ім і ёсць!
І ля Татраў я шукаю
шлях з найменнем «маладосць».
Я знайду дарогу ў Татры,
крыкну: — А пажыць тут варта!
Хто шугаем быў — ім будзь!
Пра ,сябе ў сабе забудзь!

* * *
Будаваў я замак:
на валун — глыжы...
Замак, ты таксама
сцяг ускалышы.
Я твой абаронца:
ля шчыта — стырно!
У аконца сонца
глянула даўно.
Асвяціла лёхі,
вежаў вільчакі.
Новыя эпохі
ўзводзяць смельчакі.
А з перабудовы
падаюць глыжы.
Замак быў хрэновы?
Дойлід не дужы?
І хмурэюць вокны
нашага жытла.
Замак пад аблокі
вымела мятла.

* * *
— Што такое ноч, славачка?
— Тое, што салоўка, бэз.
— Ох, высока ён узлез.
І не гаўкае сабачка.

Ноч-славачка... Дзень-славак...
Хто гультай, той і слабак.

* * *
Пайшлі праз мост на Аўстрыю.
І звоніць
метал сваёй пустэчаю глухою.

Заўсёды так: мяне ўсё гоняць, гоняць
наперад — праўдай,
а назад — лухтою.

* * *

Дунай быў родны беларускім песням.
Мая бабулька свой Дунай люляла.
Ён сёння побач. А яго мне мала:
дзе хваляў чысціня, там нафтавая плесня.

* * *

Пазычым горы мы ў славакаў,
каля Дуная сенажаць,
пазычым квет чырвоны макаў
і плёсы, што ў смузе ляжаць.
Пазычым вінаградзін грудкі
і вецер Брацілавы прудкі...
У іншым жа — без розні дом:
мы й крыж аднолькавы нясём.

* * *

Далонькі-дахі затулілі дом.
Еўропа чарапіцай чырванее
за шыферны, за шэры буралом,
які пад Брэстам нашым калянее.
Хоць рэйкі і шырэй,
а колам болей тэмпу, —
вунь — рухлядзь, вунь — кар'ер,
вунь сцежка — напаказ — «до встэмпу».

* * *

Чачотка цягніка.
Лянотная рака.
Чаромхавыя белыя успышкі...
Вунь крыжавы мой шлях.
І чэшкі на слупах —
як міжнароднэй сувязі пупышкі.

## З М Е С Т

Ноч
Цень крыжа
«Гора» цвіце
Паратунак
Залаты ржэўнік
Цыферблат ночы
Прымі...
Мова свету
Сонца
Не засну!
Ефрасіння
Вішні цвітуць
Доўгі дзень

«А ЕСТЛИ ПРИСЯГНУТИ НЕ ВСХОЧЕТЬ, ТОГДЫ РЕЧ СВОЮ ТРАТИТЬ».
Сенакос
Кропка над «і»
Бульбус
Пастулаты
На шалях
Скажу я Богу...
Спадкі Заходняй Беларусі
«Пасля ўрокаў»
Нарыхтоўчая кантора
Конь
Перспектыўнае вяселле
Жонка ЮЗ
Сяброўка Ганна

«УСТАВУЕМ, ИЖ КОЖДЫЙ МАЕТЬ МЕТИ МОЦ О РЕЧАХ СВОИХ РУХОМЫХ ТЕСТАМЕНТ ЧИНИТИ (...)».

На трэцяй планеце ад Сонца (Дыярыуш)
Дыярыуш майго адкрыцця Амерыкі
Дыярыуш 50-й вясны

Панізьнік С.

А пісар земскі...: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 142 с.: іл.
ISBN 5-340-00914-9.

Сяргей Панізьнік добра вядомы чытачам сваёй заўсёднай пільнай увагай да гістарычных каранёў беларускага народа, ягонай багатай культуры, мовы.

Той, хто забывае продкаў, няшчасны чалавек, бо ні зямля, ні вада, ні лес роднай зямлі не спатоляць трывогу ягонай душы, калі давядзецца аднойчы стаць на парозе жыцця і смерці.

Трэба адзначыць сакавітую метафарычную мову чарговага зборніка паэта.